БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

8 снежня 1994 г.
Чацвер
№ 132(13849)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года




Малюнак В.САКОВІЧА.

Ларыса Канцавенка — мастак-мадэльер жаночай вопраткі. Многія гамяльчанкі шылі сабе абноўкі менавіта па яе распрацоўках і заўсёды паспявалі ў нагу з модай.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.



## Кур'ер "ЧЗ"



*5 снежня ў Будапешце на Нарадзе краін па бяспецы ў Еўропе сустрэліся кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў. Галоўнай падзеяй першага дня Будапешцкага саміта стала цырымонія падпісання пратаколаў аб гарантыі бяспекі Украіны, Беларусі і Казахстана.*

**НА ЗДЫМКУ:** Прэзідэнт Расіі Б.М.Ельцын, прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка і прэзідэнт ЗША Б.Клінтан у час цырымоніі падпісання пратакола.

БЕЛІНФАРМ.

### Палёгка для бюджэтнікаў?

*У адпаведнасці з дагаворанасцю, дасягнутай на сустрэчы намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Віктара Ганчара з кіраўніцтвам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і галіновых камітэтаў прафсаюза работнікаў сацыяльна-культурнай сферы, Кабінетам Міністраў прынята рашэнне аб стварэнні камісіі для выпрацоўкі прапаноў па ўдасканаленню аплаты працы работнікаў бюджэтных галін.*

У склад камісіі ўвайшлі кіраўнікі шэрагу міністэрстваў, старшыні адпаведных рэспубліканскіх камітэтаў прафсаюза, а таксама прадстаўнікі Кабінета Міністраў і Савета Федэрацыі прафсаюзаў. Узначаліў камісію міністр працы А.В.Сасноў.

Прэс-служба Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

### Унікальнае адкрыццё

*зрабілі беларускія геолагі на Гомельшчыне. На плошчы звыш 36 тысяч квадратных кіламетраў яны выявілі падземныя запасы гарачых вод.*

Паводле падлікаў, іх цалкам хопіць, каб ацяпліць жылыя дамы і прамысловыя прадпрыемствы абласнога цэнтра, Рэчыцы і Светлагорска.

### Новыя заказнікі

*Гідралагічны заказнік "Навасёлкі" створаны ў Ашмянскім раёне.*

Рашэннем мясцовых улад тут забаронены меліярацыйныя работы, высечка дрэў і кустоў, іншыя віды гаспадарчай дзейнасці. Зроблена гэта для стабілізацыі воднага рэжыму ў пойме рэчкі Алянка і возера Аськовічы. Заказнік займае некалькі дзесяткаў гектараў.

***

*Дзяржаўны біялагічны заказнік "Тырвавічы" створаны на Піншчыне.*

Да гэтага кутка палескай прыроды, на шчасце, не дайшла меліярацыя. Пры дэталёвым даследаванні вучоныя-прыродазнаўцы знайшлі тут рэдкія віды дрэў, мноства лекавых траў, гняздоўі чорных буслоў, філінаў, іншых птушак і звяроў, занесеных у Чырвоную кнігу. Агульная плошча новага заказніка — каля 1400 гектараў.

### "Бацькоўскі кут"

*Такую назву атрымаў этнаграфічны музей, створаны ў чацвёртай Смаргонскай сярэдняй школе.*

У экспазіцыі — і макет печы, і падвешаная да бэлькі сапраўдная дзіцячая калыска. А мясцовыя народныя ўмельцы падарылі школьнікам прадметы хатняга ўжытку, дамотканыя вышытыя ручнікі, падсцілкі, абрусы, рознакаляровыя паясы, вырабы з саломкі, нацыянальнае адзенне продкаў.

БЕЛІНФАРМ.

### З паклонам да земляка

*На Віцебшчыне прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя дню нараджэння Уладзіміра Караткевіча, пісьменніка, паэта, гісторыка. З гэтай нагоды ў абласным цэнтры адбылося першае літаратурнае свята Караткевіча.*

Тэатр імя Якуба Коласа арганізаваў чытанні, у якіх бралі ўдзел пісьменнікі з Мінска, Віцебска, Наваполацка, выступіў ансамбль народнай музыкі "Талака". А затым удзельнікі гэтага мерапрыемства прыйшлі пакланіцца да помніка Караткевічу.

Свята было падрыхтавана сумесна з Беларускім ПЭН-цэнтрам і Віцебскім аддзяленнем Фонду Сораса.

### Аты-баты, ішлі ў салдаты...

*Ішлі ды не дайшлі... Гэтай восенню гарваенкаматамі Віцебскай вобласці выклікаліся на прызыўныя камісіі 5514 юнакоў. Не з'явіліся 414 чалавек.*

217 прызыўнікоў зараз адшукваюцца. На 124 асабліва злосных "прагульшчыкаў" справы былі перададзены ў пракуратуру. Узбуджана 13 крымінальных спраў, вынесена 17 пракурорскіх перасцярог, асуджаны два прызыўнікі.

Не ўсё добра і са здароўем прызыўнікоў. На дадатковае абследаванне накіравана 829 прызыўнікоў. 97 па стану здароўя прадастаўлена адтэрміноўка.

Уладзімір МІХНО.

### Аблавы на "зайцоў"

*Адпаведна росту цэн на паслугі аўтатранспарту расце і колькасць "зайцоў". Толькі асіповіцкія кантралёры з пачатку года сабралі штрафаў амаль на 370 тысяч рублёў.*

І ўсё ж, паводле слоў дырэктара мясцовага аўтапарка № 19 Генадзя Прусакова, каля 90 працэнтаў "зайцоў" пазбягаюць штрафаў. Таму ў бліжэйшы час праверкі тут збіраюцца праводзіць сумесна з міліцыяй.

Іван СЦЯПУРА.

### Падарунак з Амерыкі

*У Дзяржаўным мастацкім музеі адбылася выстава вядомай беларускай мастачкі са Злучаных Штатаў Тамары Стагановіч.*

Выконваючы яе волю, упаўнаважаная асоба — Сяргей Крыштаповіч — перадаў Нацыянальнаму навукова-асветнаму цэнтру імя Ф.Скарыны для выставы "Беларусы ў свеце" частку графічных твораў амерыканскай беларускі.

Святлана КУЛІКОВА.

### Вечарына паэзіі

*У сталічным Доме літаратара адбыўся вечар ізраільскай паэзіі.*

Былі прачытаны вершы вядомых аўтараў з Блізкага Усходу, гучала музыка. У праграме прынялі ўдзел дзеячы культуры з Беларусі і Ізраіля.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

### Чамаданы з "ліпай"

*Штодзённа канфіскоўваюцца фальшывыя грашовыя знакі ў Брэсце.*

Як паведамілі работнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю УУС, толькі ў гэтым годзе зафіксавана 150 выпадкаў прад'яўлення фальшывых амерыканскіх даляраў, 20 разоў канфіскоўваліся "ліпавыя" нямецкія маркі, 37 — расійскія і беларускія рублі. На думку спецыялістаў, фальшыўкі трапляюць у горад у асноўным з Захаду. Здараецца, з чамаданамі, поўнымі падробак, наведваюцца і каўказцы.

БЕЛІНФАРМ.

### Курсы валют на 7 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 8172 | 8420 | 5175 | 5393 |
| "Алімп" | 8200 | 8450 | 5220 | 5415 |
| "Прыор" | 8100 | 8500 | 5160 | 5420 |

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## ЦЭНЫ АТРЫМАЛІ "ВОЛЬНУЮ"...

*Пра гэта стала вядома з чарговай урадавай прэс-канферэнцыі, якая адбылася 5 снежня. У ёй прынялі ўдзел прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, віцэ-прэм'ер Міхаіл Мясніковіч, Сяргей Лінг, Валерый Кокараў і Уладзімір Гаркун.*

### НА ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ

Паводле слоў Міхаіла Чыгіра, пераход да свабоднага цэнаўтварэння выкліканы эканамічнай неабходнасцю. Ён будзе паступовым, і ўжо, як вядома, з 7 снежня напалавіну сталі даражэйшымі малочныя прадукты, на 30 працэнтаў — хлеб і хлебабулачныя вырабы, свініна, на 20 працэнтаў — ялавічына.

Гаворачы аб намерах урада пайсці на такія непапулярныя меры, кіраўнік Кабінета Міністраў заўважыў, што гэта неабходна для прадаўжэння дыялогу з міжнародным валютным фондам аб фінансавай падтрымцы, без якой паднімаць эканоміку рэспублікі вельмі цяжка. Да таго ж, невялікае адступленне ад свабоднага цэнаўтварэння ў лістападзе дало магчымасць насельніцтву зберагчы 103 мільярды рублёў, што паглыбіла незбалансаванасць грашовай і таварнай масы. Праўда, прэм'ер-міністр не ўдакладняў, сярод якіх слаёў нашых грамадзян прыхавана такая колькасць "зайчыкаў". Адзінае, ён даў зразумець, што павышэння заработнай платы для работнікаў бюджэтнай сферы ў бліжэйшы час не прадбачыцца. Урад змог толькі адшукаць 20 мільярдаў рублёў і накіраваць іх для аказання дапамогі маламаёмным праз выканкамы.

### І НА КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ

Іх падаражанне чакае ўсіх нас ужо ў канцы гэтага месяца. Паводле слоў Міхаіла Мясніковіча, з 25 снежня ў сем разоў павысіцца кватэрная плата, у 5,5 — ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне, у 2,5 — водаправод, у 1,5 электраэнергія, у два разы — карыстанне каналізацыяй. У паўтара раза павялічыцца плата за прыродны газ для бытавых патрэб і ў шэсць разоў — для ацяплення. Але і гэта будзе кампенсаваць толькі частку выдаткаў жыллёва-камунальных гаспадарак. Усе іх расходы мяркуецца ўскласці на насельніцтва з 1996 года.

У прынятым урадам рашэнні, на думку віцэ-прэзідэнта, дастаткова шырока выкладзены меры сацыяльнай абароны насельніцтва. Імі прадугледжана, што ўся гэта плата не будзе перавышаць 15 працэнтаў сукупнага грашовага даходу сям'і. Астатнюю частку дзяржава бярэ на сябе праз выдзяленне субсідый. У дакуменце агаворана таксама, што не будуць індэксавацца расходы па звышустаноўленых нарматывах.

Міхаіл Мясніковіч звярнуў увагу прысутных і на ўстаноўку прыбора ўліку. Цяпер 75 працэнтаў іх кошту аплачваецца дзяржавай і толькі 25 працэнтаў — жыльцамі. У далейшым гэтыя суадносіны будуць мяняцца і пасля 1996 года цалкам лягуць на іх плечы.

БЕЛІНФАРМ.

## З НАГОДЫ

## "Запас бяды не чыніць", — лічаць тараканы

Напярэдадні вечарам я падалася ў бліжэйшы гастраном № 14, што ў Цэнтральным раёне сталіцы. Звычайна нават у гэты позні час, калі не "Сервілат", то неабходны набор прадуктаў купіць тут можна. У гэты дзень пасля паведамлення па радыё аб чарговым скачку цэн магазін уяўляў сабою сумную карціну.

Хлебны аддзел. У продажы толькі белы хлеб, ды і той канчаецца, некалькі пачкаў аўсянага пячэння. "Куды ж падзеўся звычайны асартымент: чорны хлеб, батоны, сайкі, сухары і ўсё іншае?" — пацікавілася я ў прадаўца.

Аказалася, што гэта "размялі" яшчэ некалькі гадзін таму. Людзі бралі па 5, а то і па 10 буханак, каб забяспечыць сябе неабходным прадуктам хаця б на некалькі дзён.

Малочны аддзел. Малако, кефір і іншае раскупілі яшчэ да 18.00, хоць завоз нават перавышаў норму. Паводле слоў прадаўца, у гэты дзень гандляваць было проста немагчыма. Пакупнікоў было надзвычай многа, тавары набываліся ў неверагоднай колькасці.

Падобная сітуацыя ў мясным, каўбасным і рыбным аддзелах. Усё, што я ўбачыла: 3 індычкі, некалькі палак каўбасы і вэнджанага сыру. Пакупнікі былі рады нават таму нямногаму, што засталося на прылаўках.

Мае вячэрнія блуканні навялі на пытанне: няўжо мы яшчэ не зразумелі, што купленыя ў запас батон і кефір не выратуюць нікога, акрамя тараканаў?

Юлія БЯРНОЎСКАЯ.

## Магчымасць адстаўкі Ганчара ўчора была тайнай за сямю пячацямі

Чуткі аб адстаўцы віцэ-прэзідэнта Кабінета Міністраў Віктара Ганчара ўчора па-ранейшаму распалялі цікавасць журналістаў. Дазваніцца да бліжэйшага асяроддзя высокай асобы, дарэчы, як і да яе самой, нам не ўдалося. А таму, скарыстаўшы свае неафіцыйныя крыніцы інфармацыі, мы даведаліся, што на час, калі пішуцца гэтыя радкі, у вышэйшых эшалонах улады вядуцца перамовы, якія тычацца адпаведнасці Віктара Ганчара сваёй пасадзе.

Магчыма, сённяшняя раніца прынясе больш дакладныя звесткі.

Ул. Інф.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### "Уорлднэт"

#### ВІЗІТ ХЕРЦАГА

*Прэзідэнт Германіі Р.Херцаг упершыню наведаў Ізраіль.*

Ён усклаў вянок да магілы яўрэяў, якія загінулі ў час другой сусветнай вайны.

#### МЭЙДЖАР ПАЦЯРПЕЎ ФІЯСКА

*Урад Джона Мэйджара, які прапанаваў павялічыць падаткі на ацяпленне і электраэнергію, не атрымаў падтрымкі членаў парламента.*

### "Суперчэннэл"

Большасць дэпутатаў-кансерватараў, а таксама прадстаўнікі апазіцыі выступілі супраць прыняцця такой меры, вырашыўшы, што ўрад зможа знайсці іншыя крыніцы для падтрымання свайго бюджэту.

#### ЖУРНАЛІСТЫ — "НА МУШЦЫ"

*У Стамбуле і Анкары ўчынены тэрарыстычныя акты супраць журналістаў.*

У рэдакцыі газеты "Азгюр улке" былі падкладзены бомбы, у выніку выбуху загінула 20 супрацоўнікаў.

#### ДАРОЖНАЯ ТРАГЕДЫЯ

*У Францыі адбылася буйная аварыя.*

Грузавік, вадзіцель якога не справіўся з кіраваннем, сутыкнуўся з некалькімі аўтамабілямі, у выніку чаго апошнія перакуліліся, а грузавік урэзаўся ў будынак гандлёвага цэнтра. У аварыі загінула 9 чалавек, 15 атрымалі цяжкія раненні.

#### МІНІСТР ПАЙШОЎ У КАМЕРЦЫЮ

*Міністр фінансаў ЗША Лойд Бэнтсен падаў у адстаўку.*

### "Еўраньюс"

Клінтан з вялікім шкадаваннем успрыняў гэтую вестку. Паводле ўсеагульнага прызнання, 73-гадовы міністр быў адным з самых уплывовых асоб у Белым Доме, а таксама выдатным палітыкам-эканамістам. Бэнтсен тлумачыць свой выхад у адстаўку тым, што хоча вярнуцца ў родны штат Тэхас і заняцца прыватным прадпрымальніцтвам.

#### У АМНІСТЫІ АДМОЎЛЕНА

*Адмоўны адказ атрымаў на просьбу аб датэрміновым вызваленні забойцы Роберта Кензэі.*

Сірхан Бішар Сірхан за забойства сенатара ў 1968 годзе прыгавораны за пажыццёвага зняволення. Цяпер яму споўнілася 50 гадоў.

### "TV-5"

#### ПА ДЫПЛАМАТУ — АГОНЬ

*У Сектары Газа была абстраляна машына брытанскага дыпламата.*

Так адрэагаваў ізраільскі салдат на невыкананне яго патрабаванняў спыніць машыну. Дыпламат не пацярпеў.

#### КАРАЛЕВА АСВОЙВАЕ НАФТАПРОМЫСЕЛ

*Брытанская каралева Лізавета II дала згоду на пошук нафты ля Віндзорскага замка.*

Землі вакол яго, як вядома, належаць каралеве.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

